*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 48 (587) | 26 СНЕЖНЯ 2002 г.

## *З Новым 2003 годам, сябры!*



## Канікулы Машы Каральковай скончацца?

30 кастрычніка гэтага года на старонках "Звязды" быў змешчаны матэрыял Алены Ляўковіч "Доўгія канікулы Машы Каральковай". У ім апісвалася складаная сітуацыя, якая ўтварылася ў горадзе Горкі на Магілёўшчыне, дзе пяцікласніца не мае магчымасці навучацца ў родным горадзе на беларускай мове, бо ў пяці гарадскіх школах няма ніводнага пятага класа з беларускай моваю навучання. Бацькі не пусцілі дзяўчынку ў рускамоўны клас, пратэстуючы тым самым супраць парушэння сваіх гарантаваных Канстытуцыяй правоў выбару мовы навучання для дзіцяці. Раённы ж аддзел адукацыі заяўляў, што не мае фінансавых магчымасцяў арганізаваць індывідуальнае навучанне Машы на беларускай мове, і прапаноўваў розныя варыянты, з якімі бацькі не згаджаліся. Як вынік - дзяўчынка на працягу першай чвэрці не наведвала школу.

Сітуацыя патрабавала ўмяшання вышэйпастаўленых устаноў. Кіруючыся гэтым меркаваннем, рэдакцыя газеты "Звязда" накіравалі матэрыял у Міністэрства адукацыі. Адтуль, з Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі, рэдакцыя атрымала адказ наступнага зместу:

"Упраўленнем адукацыі Горацкага райвыканкама не прыняты неабходныя меры па задавальненні правоў бацькоў у адпаведнасці з Канстытуцыяй РБ і Законам "Аб адукацыі" ў выбары мовы навучання (правядзенне бацькоўскіх сходаў з мэтай высветліць колькасць бацькоў, якія жадаюць навучаць сваіх дзяцей на беларускай мове, азнаямленне іх з Праграмай дадатковых мераў па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі, новай рэдакцыяй Закона "Аб адукаці", аб магчы-масці адкрыцця гімназічнага 5-га класа і г.д.) Таму ў той сітуацыі, якая склалася ў Горках, Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі бачыць адзінае выйсце – навучанне Машы Каральковай па індывідуальнай форме за кошт гадзін школьнага кампанента".

Карацей, Маша Каралькова павінна вучыцца ў родным горадзе на роднай мове. Калі, вядома, у Горках палічаць магчымым гэта "адзінае выйсце", прапанаванае міністэрствам, рэалізаваць.

***Паводле газеты "Звязда".***

**Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага ўпраўлення адукацыі**
**запрашае**
**усіх ахвотных на бясплатныя заняткі па вывучэнні беларускай мовы і літаратуры.**
**Запіс і заняткі праводзяцца па адрасе: вул. Адзінцова, 47, ЖЭС – 94, клуб "Рунь", кожны чацвер з 18-00 да 20-00, тэл. 258-33-32.**

## Віншуем з дзём народзінаў

Сакратарыят ТБМ віншуе з днём народзінаў сяброў ТБМ, якія прыйшлі на свет у студзені:

**Яна Антанюка**
**Святлану Багданкевіч**
**Валянціна Бакіноўскага**
**Таццяну Барткевіч**
**Алену Бурбоўскую**
**Кацярыну Бяляеву**
**Галіну Варатынскую**
**Ірыну Віданаву**
**Таццяну Водзіч**
**Вальжыну Ганееву**
**Аляксандра Гедроіця**
**Юрыя Гіля**
**Тамару Грузнову**
**Людмілу Гурскую**
**Аляксандра Дзям'янава**
**Сямёна Домаша**
**Т. В. Езавіт**
**Вольгу Іпатаву**
**Лявона Красоўскага**
**Ларысу Курчанаву**
**Мікалая Курыльчыка**
**Ярослава Міляшкевіча**
**Віктара Мялешку**
**Кацярыну Навахрост**
**Алесю Норка**
**Аляксея Сяргейчыка**
**Надзею Федзюшку**
**Марыю Чабатарэвіч**
**Ігара Яначкіна**

## Расла ў лясочку ёлачка, хай далей там расце!













**Лідскі экалагічны цэнтр прапануе заміж жывых ёлак штучныя рэалістычныя і авангардысцкія навагоднія кампазіцыі.**

№ 48 (587) 26 СНЕЖНЯ 2002 г. НАША СЛОВА

Анатоль Літвіновіч

# З ВОСТРЫМ СЛОВАМ МІЖ БРАТАМІ

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Шмат прыказак, прымавак, асобных слоў звязана з нашэсцем ляхаў (палякаў) і ліцвінаў на Маскоўскую дзяржаву ў пачатку ХУІІ ст. і ўплыву іх на яе дзяржаўную палітыку. Вось некаторыя з іх: "За наши грехи не (?) ходят ляхи"; "Труса праздновали"; "Попался как кур во щи" (пра самазванца Дзмітрыя, калі ён папаўся ў рукі народа), "Танцуй душа без кунтуша, ищи пана без жупана" (гэта прыказка выкарыстоўвалася, на думку І. Снегірова, у адносінах да Марыны Мнішак); "Видно велик городок, что семь воевод", "У одной овечки да семь пастухов" (аб сямібаяршчыне ў Маскве), "Пришли козаки с Дону да погнали ляхов с дому", "Пришли козаки с Дону да погнали ляхов до дому", "ляхолетье", "лихолетье", "панщина" (аб часах, кали стаўленікі Рэчы Паспалітай кіравалі Маскоўскай дзяржавай").

Кожны народ нечым вылучаецца сярод народаў, што яго акружаюць. Адной з рыс, якой беларусы адрозніваюцца ад некаторых суседніх этнасаў, з'яўдяецца настойлівасць, ўпартасць і пастаянства ў дасягненні пастаўленай мэты. Гэта было даўно прыкмечана расійцамі. Аб упартым яны казалі: "Бейся с ним, как с Литвой." Аднак, улічваючы папярэднія факты, можна з пэўнай доляй упэўненасці сказаць, што гэтае параўнанне, верагодна, ў роўнай меры адносілася і да беларусаў, і да літоўцаў.

Беларускае насельніцтва сярэдзіны XVII-XIX стст. знаходзілася ў больш неспрыяльных ваенна-палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах, чым рускае, што было абумоўлена шэрагам фактараў прыродна-кліматычнага, ваенна-палітычнага, дзяржаўнага, сацыяльна-эканамічнага, этнічнага і інш. характару.. Беларусы цягам ХУІІ-ХУІІІ стст. У сувязі з неспрыяльнымі знешнімі і ўнутранымі фактарамі (паланізацыяй і інш.) страцілі сваю арыстакратыю і гандлёва-прамысловае саслоўе. Да XIX ст. яны аказаліся ў асноўным сялянскім народам (праўда, бяднейшую частку гараджан і дробную шляхту можна яшчэ аднесці да беларусаў). У гэтых адносінах куды ў больш спрыяльных умовах знаходзіліся расіяне.

Падобнае становішча беларусаў на сваіх землях не магло не выклікаць у расіян пачуцця здзіўлення або нават пагарды да іх. У гэты час, верагодна, і ўзнік шэраг розных вусна-паэтычных выразаў, у якіх раскрываюцца адносіны рускіх да сваіх заходніх суседзяў, падкрэсліваецца іх незайздроснае матэрыяльнае становішча. Расіяне гаварылі на беларусаў: "Литвин-колтун. Литовский колтун"; "Литвины – земляники, землекопы, лопатники, белошапошники, магерки", "Литва – безпятая лапотница; мезговники, мякинники..."

Не толькі да беларусаў у цэлым, але і да карэнных жыхароў асобных рэгіёнаў беларускай этнічнай тэрыторыі расійцы мелі свае вусна-паэтычныя выразы: "Витебцы: Волынка да гудок, собери наш домок; соха да борона разорили наши дома". "Сурожцы-литвины, Литва беззаконная; мякинники, гольтепа"; "Кругом вода, а в середине беда" (о Себеже); "Мозырь, что пузырь: кругом вода, в середине беда"; "Смоляне-крупенники, мезговники" (гэты выраз адносіўся, хутчэй за ўсё, да заходняй часткі б. Смаленскай губерні, дзе пераважала ў XIX ст. беларускае насельніцтва).

Фанетычныя асаблівасці беларускай мовы, у прыватнасці, дзеканне, выклікалі ў рускіх і ўкраінцаў да жыцця цэлы шэраг гумарыстычных прыказак: "Разве лихо возмет литвина, чтоб он не дзекнул", "Хиба лихо озме литвина, щоб вин не дзекнув" (укр.), "Как ни закаивайся литвин, а дзекнет", "Только мертвый литвин не дзекнет".

Асаблівай увагі заслугоўвае наступная прыказка: "Смоляне – польская кость да собачьим мясом обросла". Узнікненне яе можна звязаць з польскім фактарам, паланізацыяй шляхты, мяшчанства гарадоў і апалячанай часткай беларускага народа мінулых стагоддзяў. Рускае насельніцтва суседніх губерняў (да беларускіх у XIX – пачатку XX ст. нярэдка адносілі і Смаленскую) у XVII – XIX ст.ст., па традыцыі нярэдка называла Беларусь Польшчай, а яе жыхароў палякамі (г.зн., як асоб з польскай нацыянальнай самасвядомасцю (буйная і сярэдняя шляхта, інтэлігенцыя, мяшчане), так і беларусаў-католікаў з дробнай шляхты, сялян, беларусаў-уніятаў, нават праваслаўных.

У якіх бы ўмовах нашы продкі не жылі, аднак ведалі сабе цану і на сваё становішча асабліва не крыўдавалі. Бо ведалі, што простаму чалавеку няма на каго спадзявацца, акрамя як на самога сябе. Працавітасцю ж і гаспадарлівасцю, дзякуй Богу, наш народ не абдзелены. Таму нашы прадзеды маглі часам з сябе пажартаваць, пакпіць: "Ліцвін (беларус –А.Л.) як лін: з-пад сучкі яйка ўкрадзе" (г. зн. у любой справе пакажа сваю кемлівасць, знаходлівасць і сябе ў крыўду не дасць А.Л.), "Ліцвін божы". - "Ты сам божы", "Ліцвін чортаў". - "Хоць чортаў, але ня твой", "Што пан, што гаспадзін –чорт адзін, ды і свой спадар ня божы дар", "Маскаль з ражном, Абрам з віном, а ліцвін - пусціпавалюся", "Маскаль -сцібрыў паркаль, пшапрашам – не арэ, ня паша, а дурны ліцвін – гарэ адзін", "Хітры ліцвін: ад мацы растаўсцеў".

Мы тут спыніліся толькі на найбольш яскравых прыказках і прымаўках, у якіх адлюстраваны вобраз этнічнага суседа. Безумоўна, у залежнасці ад эпохі мяняўся і вобраз суседняга народа ў вуснай паэтычнай творчасці, у прыватнасці, трапных, народных выразах. Калі, напрыклад, у ХУІ-ХУІІ стст. Беларусы ставіліся ў цэлым негатыўна і з асцярожнасцю да сваіх усходніх суседзяў (лічылі іх малаадукаванымі, абмежаванымі, жорсткімі людзьмі, якія мелі азіяцкія норавы і разам з тым непамерныя амбіцыі і прэтэнзіі і інш.), то ў XIX – пачатку XX ст. нашы продкі свае ўяўленні пра ўсходніх суседзяў некалькі змянілі, не давалі такіх рэзкіх і адмоўных ацэнак і характарыстык, уласцівых папярэдняй эпосе. Такая тэндэнцыя ўласцівая і сучаснасці. Аднак гэта тэма асобнай гаворкі. Такі аб'ектыўны ход жыцця народаў, што воляю лёсу наканавана жыць побач, а то і разам. А чаго між суседзямі не бывае... .



# ЦІКАВАЯ ІМПРЭЗА

29 кастрычніка 2002 г. у бібліятэцы Дома літаратара ў г. Менску адбыўся чарговы сход сяброў культурна-асветнага клуба "Спадчына". На сход былі запрошаны навукоўцы, літаратары, мастакі, скульптары, артысты, грамадскія дзеячы. Старшыня клуба Анатоль Белы падвёў вынікі дзейнасці клуба за паўгода, адзначыў, што завершана пашырэнне Старадарожскага мастацкага музея. Цяпер плошча яго экспазіцыі складае 500 кв.м. Музей мае звыш 3 тыс. экспанатаў асноўнага фонду. На сядзібе музея ў апошні час адкрыты помнікі беларускай паэтэсе Ларысе Геніюш і вядомаму беларускау вучонаму, доктару гістарычных навук Мікалаю Мікалаевічу Улашчыку. На "Сцяне Гонару", даўжынёю ў 25 м. адкрыты першыя два помнікі: полацкай князёўне, беларускай святой Еўфрасініі Полацкай і канцлеру ВКЛ Льву Сапегу, па-мастацку зваранына з ліставога жалеза.

Сябрамі клуба шмат зроблена для прапаганды мастацкай і культурнай спадчыны Беларусі. Наладжаны экскурсіі ў Старадарожскім мастацкім музеі, якія цікава і змястоўна праводзяць Анатоль Яўхімавіч Белы і Ала Мікалаеўна Белая. У агульнай колькасці за справаздачны перыяд музей наведала звыш 800 чалавек. У адрозненне ад дзяржаўных і прыватных музеяў Беларусі ў Старадарожскім мастацкім музеі ўваход бясплатны. Пра музей за гэты час апублікаваны шэраг артыкулаў у рэспубліканскім, абласным і раённым друку, паказана па расійскім і бьеларускім тэлебачанні, прайшло некалькі інфармацый па радыё.

У перспектыве плануецца адкрыць помнікі братам І. і А. Луцкевічам у г. Старыя Дарогі *(помнік на момант публікацыі ўжо ўстаноўлены, рэд.)* і помнік Ларысе Геніюш у г. п. Зэльва Гарадзенскай вобласці. Пасля вяртання з месц зняволення ў 1963 г. паэтэса жыла ў Зэльве, там памерла ў 1983 г., там жа і пахавана на мясцовых могілках.

На сходзе адбылося чарговае ганараванне, на гэты раз беларускіх гісторыкаў.

Камітэтам Ушанавання клуба "Спадчына" за ўдзел у напісанні кнігі пра Браніслава Тарашкевіча "Споведзь у надзеі застацца жывым" ганаруюцца медалём вядомага беларускага гісторыка, эканаміста, этнографа, аднаго з заснавальнікаў нацыянальнай гістарыяграфіі Мітрафана Віктаравіча Доўнара-Запольскага "За вяртанне гістарычнай памяці" з уручэннем дыплома і занясеннем у Кнігу гонару "Рупліўцы тваe, Беларусь" гісторык, журналіст Анатоль Валахановіч; доктар гістарычных навук, прафесар БДУ Уладзімір Міхнюк. Дакументы аб ганараванні былі падпісаны 25 сакавіка 2002 г.



**Ганаруецца медалём М. Доўнар-Запольскага "За вяртанне гістарычнай памяці" прафесар Уладзімір Міхнюк.**

Сябрам клуба быў паказаны дакументальны фільм пра адкрыццё помніка Фларыяну Даноўскаму (1825-1902), сябру тайнай арганізацыі "Братні звяз моладзі Літвы (Беларусі)", удзельніку паўстання 1863-1864 гадоў, каля в. Каралінава (Каралінова) Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці, менавіта, у Дзень вайсковай славы (бітва пад Оршай) – 8 верасня 2002 г. Пасля раскрыцця даейнасці тайнай арганізацыі, як сябар гэтай арганізацыі Ф. Даноўскі атрымаў 10 гадоў.



**Ганаруецца медалём М. Доўнар-Запольскага "За вяртанне гістарычнай памяці" гісторык, журналіст Анатоль Валахановіч.**

Пасля вяртання на Беларусь, Ф. Даноўскі служыў у маёнтку Каралінава ў пані Ванды Ромер, дзе і памёр, там і быў пахаваны.

Крыху раней, тут жа, каля в. Каралінава, быў адкрыты помнік Вандзе Ромер (1853-1944) з роду паноў Сулістроўскіх, жонцы вядомага жывапісца, скульптара, медальера, мастацтвазнаўца, этнографа, удзельніка паўстання 1863-1864 гадоў, за што быў зняволены і сасланы на пасяленне ў Кастрамскую губерню, Альфрэда Ізідара Ромера (1832-1897).

Аўтар ідэі, праекта і стварэння помніка Ф. Даноўскаму жывапісец і скульптар Алесь Цыркуноў. Ходам работ па ўзвядзенню помніка Ф. Даноўскаму цікавіўся і даваў слушныя парады вядомы беларускі скульптар Алесь Шатэрнік.

Мясцовыя ўлады Пастаўскага раёна не дапамагалі, але і не перашкаджалі ўзвядзенню і адкрыццю помнікаў Ф.Даноўскаму і В. Ромер.

Фільм пра адкрыццё помніка Ф. Даноўскаму атрымаўся цікавым і змястоўным. Каментаваў асобныя сюжэты фільма А. Цыркуноў.

Мастак-жывапісец Алесь Цыркуноў падаў добры прыклад беларускім скульптарам, сам стаўшы скульптарам, каб яны на сваёй "малой радзіме" у горадзе ці раёне, паставілі помнікі сваім землякам, тым ці іншым значным гістарычным ці культурным падзеям, і такім чынам уся Беларусь пакрылася бы высокамастацкімі помнікамі, што паслужыла б фармаванню нацыянальнай свядомасці беларусаў, беларускага народа, "тутэйшых", "тыбульцаў".

Сваю новую кнігу вершаў "Формула травы" прадставіў сябра клуба "Спадчына" беларускі паэт Яўген Гучок.

Вядомы беларускі спявак, бард, паэт Уладзімір Гуткоўскі, які ў сучасны момант жыве ў ЗША і выкладае ў амерыканскай школе фехтаванне, са свайго багатага песеннага рэпертуару "Вось дык жыццё..." праспяваў шэраг песень, сярод якіх "Бітва пад Оршай", "Налівай", "Рыцар", "Вось дык жаццё...", "Чорны воран", "Не трымай за горла" і іншыя.

Сябры клуба "Спадчына", усе запрошаныя на імпрэзу падвялі неблагія вынікі працы клуба, намецілі планы на будучае і добра адпачылі.

***Наш кар.***



## Да ўвагі сяброў ТБМ



Рада ТБМ Кастрычніцкага р-на г. Менска 19 лістапада правяла чарговы занятак-сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі сярэдняй школы №30. Сустрэча, безумоўна, мела мэтай уганараванне 120-й гадавіны нашых зорак: Я. Купалы, Я. Коласа.

Але, як сказаў у кароткай прамове старшыня Рады Ян Грыб, "... ёсць і яшчэ мэта: калі з 40-ка юначых душаў, якія тут прысутнічаюць, нам удасца запаліць неўміручы агеньчык патрыятызму і абудзіць усведамленне неабходнасці змагання за незалежнасць Радзімы, за выратаванне нацыянальнай культуры, якая пачынаецца з роднай мовы, хоць бы ў адной душы, мы будзем лічыць нашу святую справу выкананай!"

Гэтыя словы, нават нечакана для ўсіх, выклікалі дружныя воплескі вучняў.

Сустрэча прайшла ўзнёсла, як кажуць, на адным дыханні. Школьнікі 7-х – 11-х класаў чыталі вершы і ўрыўкі з паэм нашых прарокаў; усхвалявана гаварылі, якое ўражанне яны атрымліваюць ад гэтых радкоў. Юля Салаўёва, Святлана Шэлег, Насця Глухоўская, Алеся Гоман, Алесь Жданко, Зміцрок Кураленка, Максім Кабяк..., такія прыгожыя і таленавітыя дзеткі зямлі Беларускай.

Да глыбіні душы праніклёны аповед шаноўнай спадарыні Людмілы Давыдоўскай, загадчыцы навукова-асветніцкага аддзела музея Я. Купалы, сустрэты з вялікай увагай, як навучэнцамі, так і настаўнікамі, якія прызналіся, што многія моманты пачулі ўпершыню

На працягу ўсёй вечарыны вялася віктарына, якую вельмі ўмела і тактоўна заўсёды здзяйсняе сакратарка нашай Рады Людміла Белахвостава.

Весела і аргументавана паказаў прыгажосць і мілагучнасць роднай мовы намеснік ст. рады шаноўны Ян Антанюк, умела дэманструючы гучанне кітайскай, арабскай, нямецкай, рускай і іншых моваў і потым, як тое ж самае гучыць на нашай. Усе дружна і аднастайна вызначылі, што на нашай – прыгажэй.

З найвялікшым захапленнем і некаторым здзіўленнем усе прысутныя слухалі беларускія лірычныя і патрыятычныя песні, што з нязменным майстэрствам выканаў наш вядомы дзеяч беларускай песеннай культуры Алесь Галіч. Што вельмі радуе: тыя песні, якія хоць трохі ведаюць вучні і настаўнікі, спяваліся ўсімі разам дружна і натхнёна.

Закончылася сустрэча па нашай святой традыцыі агульным трапяткім спевам малітвы за Беларусь "Магутны Божа".

Мы шчыра ўдзячныя намесніцы дырэктара школы спадарыні Алене Булаўка і настаўніцы беларускай мовы спадарыні Святлане Шарлан за гэтую вечарыну.

Да новых сустрэч.

*Ян Грыб, старшыня Рады ТБМ.*

## Памёр Анатоль Канапелька



З глыбокім смуткам даведаліся пра раптоўны сыход **Анатоля Канапелькі.**

У нашай памяці назаўсёды застануцца шчырыя вершы, таленавітыя пераклады, усё, што Анатоль зрабіў дзеля ўшанавання памяці Яна Баршчэўскага.

Педагагічны талент Анатоля знойдзе працяг у сотнях выкладчыкаў і даследчыкаў роднай мовы і літаратуры, выхаваных ім у Віцебскім дзяржаўным універсітэце.

Пасеенае шчодрым крывіцкім сэрцам Анатоля Канапелькі на ніве Беларушчыны абавязкова дасць свой плён.

Перадаём свае найглыбейшыя спачуванні сям'і і блізкім.

Жыве Беларусь!

**Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Андрэй Дынько, Беларускі ПЭН-цэнтр.**

***Таварыства беларускай мовы смуткуе з прычыны раптоўнай смерці літаратара, педагога, намесніка старшыні віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Анатоля Канапелькі і выказвае шчырае спачуванне ягонай сям'і, сваякам, сябрам.***

***18. 12. 2002 г.***

## "Спадчына" з Новай Мышы

Гурток "Спадчына" Навамышскага ПТВ-156 вядомы у рэспубліцы. Мы наведалі шмат гістарычных мясцін нашай Бацькаўшчыны. Апошняя паездка ў гэтым годзе была на радзіму Я. Коласа, дзе гурткоўцы чыталі вершы, урыўкі з паэмы "Новая зямля", "Сымон-музыка" і іншых твораў Я. Коласа.

Да кожнай паездкі мы старанна на працягу некалькіх месяцаў рыхтуемся, вывучаем гісторыю, вучні вучаць вершы, урыўкі з твораў пра гыя ці іншыя мясціны. Вярнуўшыся з паездкі, праводзім вечары, вучні пішуць рэфераты, выпускаюць газету "Спадчына".

Тэатру нашай вучэльні прысвоена званне Народнага, па неўдакладненых звестках ён з'яўляецца адзіным у сістэме ПТВ рэспублікі.

Акцёрамі з'яўляюцца выкладчыкі, майстры вытворчага навучання, вучні. Тэатр ставіць п'есы беларускіх драматургаў на роднай мове.

З павагай да Вас

*Уладзімір Хітрык. г. Баранавічы.*

## У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТРЫЛОГІІ ВОЛЬГІ ІПАТАВАЙ "АЛЬГЕРДАВА ДЗІДА"

18 снежня ў Доме літаратара ў Менску адбылася прэзентацыя трылогіі вядомай беларускай пісьменніцы Вольгі Іпатавай "Альгердава дзіда".

Гэтая кніга з прадмовай доктара філасофіі Уладзіміра Конана нядаўна выпушчана выдавецтвам "Беллітфонд" у серыі "Беларускі гістарычны раман". У выданне ўвайшлі тры раманы Іпатавай: "Залатая жрыца Ашвінаў", "Вяшчун Гедзіміна" і "Альгердава дзіда", - прысвечаныя станаўленню Вялікага княства Літоўскага.

Як зазначыў заснавальнік серыі, беларускі пісьменнік і кнігавыдавец Кастусь Цвірка, яшчэ на пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя юная Вольга Іпатава выдала кнігу "Прадслава", прысвечаную Ефрасінні Полацкай. "У сваёй апошняй трылогіі пісьменніца прадставіла жывыя вобразы першых беларускіх князёў, пачынаючы ад Міндоўга і Гедыміна", - сказаў Цвірка. Ён нагадаў, што поруч з трылогіяй Вольгі Іпатавай у серыі "Беларускі гістарычны раман" выйшлі кнігі Уладзіміра Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" і Алеся Пашкевіча "Пляц волі". Надалей мяркуецца выдаць творы Уладзіміра Караткевіча, Кастуся Тарасава, Генрыха Далідовіча, Сцяпана Александровіча і Леаніда Дайнекі.




Вядомы гісторык і грамадска-палітычны дзеяч Алег Трусаў на прэзентацыі зазначыў, што Вольга Іпатава стала першай беларускай пісьменніцай, якая стварае мастацкую прозу па тэме нацыянальнай гісторыі. Паводле меркавання Трусава, трылогія вельмі актуальная ў наш час. "Калі б кнігу прачытаў Аляксандр Лукашэнка і падарыў яе Уладзіміру Пуціну, беларуска-расійскія адносіны, магчыма, развіваліся па іншаму сцэнарыю", - выказаў меркаванне Алег Трусаў..

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Валеры Фралоў сказаў, што "таксама, як і Вольга Іпатава, якая настойліва "капае" беларускую гісторыю, частка дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў настойліва "капае" крыху глыбей, чым дазваляе цяперашняя ўлада". "Сёння нам упершыню ўдалося адхіліць дэкрэт прэзідэнта. Мы моцна трымаемся за свае "рыдлёўкі" і спадзяёмся на станоўчы вынік нашых "раскопак" – вобразна выказаўся Фралоў.

Удзельнікі сустрэчы адзначылі мужнасць і незалежнасць Вольгі Іпатавай на пасадзе старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, яе стойкасць у барацьбе за адукаваную, свядомую і свабодную Беларусь.

У вечарыне прынялі ўдзел вядомыя беларускія барды Алесь Камоцкі, Эдуард Акулін, Валерыя Кустава і Пётр Русаў.

*Марат ГАРАВЫ, Бела ПАН.*

## "Гартаючы старонкі жыцця"

*Паглядзі на мяне*
*Гэтым ласкавым вечарам,*
*Я праходжу з табой*
*Па журлівай вясне.*
*Наяву або ў сне*
*Стаў сустрэчай асвечаны*
*Гэты вечар зялёны?*
*Паглядзі на мяне!*

*("Паглядзі на мяне" Сяргей Панізнік.)*

У 1989 годзе у вёсцы Варняны, што на Астравеччыне адбылося вялікае свята паэзіі "Пра ўсё сказаць прыйшла пара". Прымаў удзел у свяце і паэт з Менска Сяргей Панізьнік, ён чытаў вершы, дзейнічала выстава кніг, кірмаш. Тады ўпершыню пабачыла паэта, атрымала зборнік паэзіі "Жыцень", з таго часу працягваецца знаёмства з творчасцю С. Панізьніка. На пачатку 90-х гадоў ён часта бываў у Вільні, прыязджаў у архівы працаваць, сустракаўся з беларускай інтэлігенцыяй – Зоськай Верас, Лявонам Луцкевічам, Хведарам Нюнькай. У 1995 годзе ў Таварыстве Беларускай Культуры ў Вільні адбылася сустрэча з паэтам, адзначалі ўгодкі Кастуся Езавітава. У гэтым годзе ТБК адзначала 60-годдзе Сяргея Панізьніка. Чыталі вершы Леакадзія Мілаш і Ганна Клюкойць. С. Панізьнік не толькі паэт, а і ўкладальнік многіх зборнікаў гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", выйшла чарговая кніга "Вільнюс – прыяцелю мой ласкавы". Гэты ўнікальны зборнік, прысвечаны Вільні быў прадстаўлены на паэтычнай вечарыне, прысвечанай С. Панізьніку. Сяргея Сцяпанавіча ў Вільні ведаюць, чытаюць. А што можа быць прыемней для паэта, калі яго кніжкі не ляжаць на паліцах, а даходзяць да свайго чытача, яго вершы вучаць на памяць, ён патрэбен людзям. А словы, заўсёды прыцягваюць, яны блізкія і дарагія:

***Жыццё – вялікі круг.***
***На кожным кроку – друг,***
***І кожны друг – як соца.***
***А будзем, друг, любіць,***
***Каханне будзе плыць***
***Над вечнасцю бясконцай...***
***Нам дадзена жыццё,***
***Як вечару – касцёр,***
***Як зорка – ціхай зорцы...***

***Леакадзія Мілаш, Вільня.***

